Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# газета НАСТАЎНІЦКАЯ

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 67 (5398)
Чацвер, 6 чэрвеня 2002 года

## Стварыць роўныя ўмовы для ўсіх абітурыентаў

***Пытанні кантролю за ходам уступных экзаменаў у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах краіны абмяркоўваліся 4 чэрвеня на нарадзе ў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.***

У нашы ВНУ павінны прыходзіць лепшыя выпускнікі школ на аснове аб'ектыўнага і справядлівага конкурснага адбору, лічыць кіраўнік дзяржавы.

"Абітурыентамі становяцца дзеці з эліты нашага грамадства, лепшых сем'яў, якія здольны падрыхтаваць дзяцей для паступлення ў навучальныя ўстановы", - адзначыў Аляксандр Лукашэнка. Паводле яго слоў, адбор студэнтаў з'яўляецца адной з важнейшых сацыяльна-палітычных задач, якая вызначае склад будучых спецыялістаў, а значыць і будучыню краіны. Менавіта таму нарады на вышэйшым узроўні па пытанню кантролю за ўступнымі экзаменамі ў навучальных установах краіны сталі ўжо традыцыйнымі.

У ходзе нарады абмяркоўваліся актуальныя пытанні арганізацыі прыёму абітурыентаў, вызначаны задачы перад дзяржаўнай камісіяй па кантролю за ходам уступных экзаменаў. Прэзідэнт адзначыў, што работа камісіі павінна будавацца на прынцыпах адкрытасці і публічнасці, а яе мэта - стварыць сацыяльна справядлівыя і сапраўды роўныя ўмовы для ўсіх без выключэння абітурыентаў.

Правілы і метады арганізацыі ўступных экзаменаў і работы прыёмных камісій павінны быць простыя, зразумелыя і прымальныя для насельніцтва, лічыць Аляксандр Лукашэнка. Ён падкрэсліў, што ў гэтым годзе прыняты больш жорсткія меры па недапушчэнню фактаў злоўжыванняў, і сама ўступная кампанія будзе, як заўсёды, знаходзіцца пад асабістым кантролем Прэзідэнта.

Закранался таксама пытанне аб эфектыўнасці прымянення існуючай сістэмы льгот, якая, як лічыць кіраўнік дзяржавы, павінна быць сацыяльна адраснай.

Абітурыентам, якія паступаюць у дзяржаўныя ВНУ на бясплатную форму навучання, трэба ўлічыць, што ім давядзецца працаваць па размеркаванню ў адпаведнасці з патрэбнасцямі народнай гаспадаркі ў спецыялістах, адзначыў Прэзідэнт.

Аляксандр Лукашэнка ўказаў на неабходнасць прапрацоўкі пытання аб прадастаўленні крэдытаў на атрыманне адукацыі.

Не засталіся без увагі Прэзідэнта і пытанні, звязаныя з дзейнасцю камерцыйных ВНУ, якія валодаюць тымі ж правамі і абавязкамі, што і дзяржаўныя. "Не скрыўляйце палітыку, якая праводзіцца дзяржавай. Будзьце сумленнымі. Мы аддаём вам самае дарагое - нашых дзяцей", - заключыў Аляксандр Лукашэнка.

Прэзідэнт даручыў дзяржаўнай камісіі па кантролю за ходам уступных экзаменаў, рэспубліканскім і мясцовым органам дзяржаўнага кіравання, органам кіравання навучальнымі ўстановамі не дапусціць ніякага парушэння прынцыпу справядлівасці, а па выяўленых фактах невыканання правіл прыёму аператыўна прымаць прадугледжаныя заканадаўствам меры.

**Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**



Вучаніца трэцяга класа Клімавіцкай сярэдняй школы №2 Алеся Бераснева часта вядзе канцэрты ў Клімавіцкай школе мастацтваў, дзе яна займаецца. Нядаўна дзяўчынка паспяхова выступіла ў ролі вядучай на канцэртах рэгіянальнага конкурсу дзіцячых творчых калектываў у Крычаве.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

Абітурыент-2002

## Ільготы для медалістаў і пераможцаў алімпіяд

***Падчас сёлетняй прыёмнай кампаніі ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны абітурыентаў чакаюць некаторыя новаўвядзенні.***

Як паведаміў намеснік адказнага сакратара прыёмнай камісіі ГДУ Сяргей Ханеня, універсітэт зрабіў пэўныя захады па падтрымцы пераможцаў абласных алімпіяд і ўладальнікаў медалёў.

Пераможцаў алімпіяд (1, 2, 3 месцы) сапраўды чакае істотная льгота. Пры ўмове паступлення на адпаведную спецыяльнасць яны атрымліваюць права на залічэнне без уступных экзаменаў. Медалістам пры паступленні на спецыяльнасці "фізіка", "матэматыка", "фізіка-тэхнічная творчасць", "біялогія" і некаторыя іншыя дастаткова атрымаць на ўступных іспытах адзнакі "4, 5" ці "5" па прафілюючых дысцыплінах, каб трапіць у лік студэнтаў.

Сёлета ў ГДУ працягнецца эксперымент па выкарыстанні 6- і 10-бальнай сістэмы ацэнкі ведаў абітурыентаў (10-бальная сістэма датычыцца толькі спецыяльнасці "аўтаматызаваныя сістэмы апрацоўкі інфармацыі"). Пры паступленні на ўсе нефілалагічныя спецыяльнасці будуць улічвацца вынікі цэнтралізаванага тэсціравання па рускай і беларускай мовах.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

Лета-2002

## Дэбаты юных лідэраў

***У Міжнародны дзень абароны дзяцей рэспубліканскі аздараўленчы летнік "Зубраня" прымаў прадстаўнічых гасцей. Да юных лідэраў дзіцячых арганізацый, дзяцей-інвалідаў пераможцаў конкурсу "Вясёлкавы карагод" на ўрачыстае адкрыццё змены "Лідэр-2002" прыехалі намеснік старшыні Нацыянальнай камісіі па правах дзіцяці, начальнік упраўлення сацыяльна-культурнай сферы Апарату Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Алена Аляксандраўна Сівалобава, Міністр адукацыі Пётр Іванавіч Брыгадзін, прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, дэпартамента па справах моладзі.***

Атрымалася цікавая сустрэча. Алена Аляксандраўна Сівалобава і вучань 11 класа мінскай гімназіі №192 Іван Карповіч расказалі юным лідэрам дзіцячых арганізацый пра ўдзел у Спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у інтарэсах дзяцей, адказалі на іх шматлікія пытанні.

Лідэры дзіцячых арганізацый падчас аздараўлення ў рэспубліканскім летніку "Зубраня" вырашылі заняцца вывучэннем і абмеркаваннем міжнародных дакументаў, што былі прыняты на нядаўна прайшоўшай Спецыяльнай сесіі ААН у інтарэсах дзяцей.

На сустрэчы з гасцямі былі арганізаваны дэбаты па двух накірунках вырашэння дзіцячых праблем. Першы - кожнае дзіця мае права атрымаць адукацыю, адпаведную яго інтарэсам і здольнасцям і павінна мець магчымасць гэта здзейсніць.

Другі - дарослыя абавязаны прыслухоўвацца да дзяцей, іхніх думак і даваць права дзецям прымаць удзел у вырашэнні некаторых праблем жыцця грамадства.

Міністр адукацыі Пётр Іванавіч Брыгадзін прыняў удзел у гэтых дэбатах і адказаў на ўсе хвалюючыя дзяцей пытанні.

Сустрэча завяршылася святочным канцэртам узорнага танцавальна-харэаграфічнага калектыву "Дзіця свету" Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.

**Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**

Прэс-канферэнцыі

## Будзем чакаць перамог!



***4 чэрвеня ў Міжнародным цэнтры інтэграцыйнай інфармацыі Грамадскага прэс-цэнтра Дома прэсы адбылася прэс-канферэнцыя намесніка Міністра спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Аляксандра Уладзіміравіча Грыгарава "Аб падрыхтоўцы і ўдзеле ў Міжнародных спартыўных юнацкіх гульнях краін СНД, Балтыі і рэгіёнаў Расіі 14-24 чэрвеня ў Маскве".***

Гісторыя юнацкага спорту трэцяга тысячагоддзя пачнецца менавіта з гэтых гульняў. Юнацкія спаборніцтвы - гэта прэстыж дзяржавы і адначасова акцыя супраць алкагалізму, наркаманіі, таксікаманіі, якія апаноўваюць нашу моладзь. Ідэя правядзення гульняў належыць прэзідэнту Расіі Уладзіміру Пуціну, падрыхтоўкай займаецца Арганізацыйны камітэт на чале з мэрам Масквы Юрыем Лужковым, а таксама рабочая група, якой кіруе віцэ-мэр расійскай сталіцы В.Шанцаў. Да падрыхтоўкі прыцягнуты практычна ўсе дэпартаменты, камітэты і іншыя структурныя падраздзяленні адміністрацыі Масквы, аказвае падтрымку Алімпійскі камітэт Расіі.

Масква, якая мае велізарны вопыт правядзення спартыўных спаборніцтваў вышэйшага рангу, значную матэрыяльную базу і багатыя кадравыя рэсурсы, гатова прыняць шэсць тысяч атлетаў, чый узрост не перавышае 17 гадоў. Маладыя спартсмены на лепшых спартыўных пляцоўках горада ("Лужнікі", "Алімпійскі", "ЦСКА", "Дынама" і інш.) будуць спаборнічаць у 17 найбольш папулярных відах: футболе, баскетболе, валейболе, лёгкай атлетыцы, плаванні, спартыўнай і мастацкай гімнастыцы, сінхронным плаванні, грэка-рымскай барацьбе, гандболе, конным спорце, настольным і вялікім тэнісе, фехтаванні, шахматах, барацьбе самба, спартыўных танцах. Акрамя таго, у межах гульняў пройдуць спаборніцтвы ў пяцібор'і і боўлінгу.

На дадзены момант каманда Беларусі знаходзіцца на апошнім этапе падрыхтоўкі, яна складаецца з 304 чалавек, у іх ліку 218 спартсменаў, 13 суддзяў, 6 афіцыйных асоб і інш. Усяго ў падрыхтоўцы было задзейнічана 358 спартсменаў. На гульнях будзе прысутнічаць Міністр спорту і турызму Беларусі Яўген Варсін, паралельна ў яго запланавана сустрэча са старшынёй Дзяржаўнага спартыўнага камітэта Расіі Вячаславам Фецісавым.

Спартыўная экіпіроўка для беларусаў пашыта айчыннымі вытворцамі. Спаборніцтвы стануць аглядам не толькі спартыўнага рэзерву, а і працы ўсёй сістэмы вучэбна-спартыўных устаноў.

Сёння ў Беларусі іх 481, усяго тут займаецца 176737 чалавек, гэта на 5500 чалавек больш, чым у мінулыя гады. Штат трэнераў павялічыўся на 175 чалавек і зараз складае 4779 чалавек. Усяго ў рэспубліцы - каля 7000 спецыялістаў.

Што датычыцца вынікаў выступленняў, дык, па словах Аляксандра Грыгарава, іх спрагназаваць дастаткова цяжка. Гэта тлумачыцца тым, што спартыўныя рэзультаты людзей у юначым узросце звычайна маюць вельмі нестабільны характар. Хаця, улічваючы тое, што ў 1998 годзе на сусветных юнацкіх гульнях наша каманда заняла 5 месца з 137 удзельнікаў, мы маем поўнае права спадзявацца на поспех. Асноўная задача, якую каманда ставіць перад сабой - гэта, хутчэй, не заваяванне медалёў, а дастойнае прадстаўніцтва сваёй краіны. І ўсё ж надзея ёсць: у лёгкай атлетыцы - 10 чалавек, якія могуць весці барацьбу за медалі, у пяцібор'і нас прадстаўляюць спартсмены, якія сталі пераможцамі ў эстафеце ў Еўропе, у плаванні з 16 чалавек двое ці трое могуць разлічваць на ганаровыя месцы, мяркуецца, што яшчэ 10 чалавек павінны ўвайсці ў дзесятку лепшых.

Асаблівая ўвага пры арганізацыі гульняў будзе надавацца допінгкантролю. Ужо зараз да працы прыцягнуты ўрачы нацыянальных каманд, задзейнічаны дыспансер спартыўнай медыцыны.

Існуюць і іншыя праблемы. У мастацкай гімнастыцы, напрыклад, гэта праблема судзейства. Кожная каманда вязе з сабой суддзю, і хоць спартыўны гонар мае на ўвазе перш за ўсё справядлівасць, вельмі часта суддзя "дапамагае" сваёй камандзе. Гульневыя віды спорту - наогул ахілесава пята нашай каманды з той прычыны, што фінансаванне - недастатковае. У футбольных матчах і некаторых іншых відах спорту будуць удзельнічаць прадстаўнікі паўднёвых дзяржаў СНД. (Гэта выклікае яшчэ адно пытанне: у краінах з цёплым кліматам фізічнае выспяванне юнакоў адбываецца нашмат хутчэй, што ў выніку дазваляе гаварыць пра няроўныя умовы спаборніцтваў).

Расія будзе прадстаўлена на гульнях 9 камандамі: 7 - з федэральных акруг і па адной - ад Масквы і Пецярбурга.

Спартыўныя юнацкія гульні выгадныя нашай краіне ў эканамічным плане. Усе фінансавыя расходы бяруць на сябе гаспадары: сродкі, а гэта 500 мільёнаў рублёў, будуць выдзелены з гарадскога бюджэту Масквы.

Поспех юнацкага "форума" ў сталіцы Расіі павінен стаць яшчэ адным доказам правамернасці прэтэнзій Масквы на месца правядзення Алімпіяды - 2012.

**Наталля АЛЁХІНА.**

Выпускныя экзамены

## Дзевяцікласнікі пісалі пераказ, але большасць філолагаў выступае за дыктант

***У сярэдніх агульнаадукацыйных навучальных установах распачаліся выпускныя экзамены за курс базавай і сярэдняй школы. У панядзелак дзевяцікласнікі пісалі пераказ па рускай мове.***

У Сласцёнаўскай школе-садзе Чавускага раёна дзевяцікласнікаў сёлета сямёра. Чацвёра пасля таго, як здадуць выпускныя экзамены, мяркуюць паступаць у вучылішчы, атрымліваць прафесію. Мацнейшая тройка плануе працягваць вучобу ў школе. У такім невялічкім калектыве ёсць свая выдатніца - Надзея Маханенка.

Да першага свайго экзамену вучні рыхтаваліся на працягу ўсяго вучэбнага года. І хоць гадзін на прадмет адведзена мала - усяго дзве на тыдзень, аднак настаўніца рускай мовы і літаратуры Марыя Арцёмаўна Маханенка (дарэчы, вельмі вопытны педагог) пастаралася развіць у сваіх выхаванцаў чуццё мовы. Дзевяцікласнікі падчас урока разбіралі тэксты, запаміналі іх, пераказвалі вусна і пісьмова, поўнасцю і часткамі.

Настаўнікі-філолагі адзначаюць, што два апошнія гады тэксты для пераказу даюцца дастаткова складаныя. Сёлета з двух прапанаваных варыянтаў, першы, пад назвай "Дороги", - багаты на апісанне розных дэталяў вандравання па пушкінскіх мясцінах. Другі, "Звучит симфония", які абрала большасць школ, - апавядальны, лягчэйшы для запамінання, але не без сваіх цяжкасцей: насычаны асабістымі найменнямі, ёсць складаныя знакі прыпынку, маецца простая мова, перамежаваная словамі аўтара. Карацей, дзевяцікласнікам давялося добра папрацаваць усе чатыры гадзіны, адведзеныя на экзамен.

За пераказ выстаўляецца двайная адзнака - за змест і за пісьменнасць. Марыя Арцёмаўна схіляецца да таго, што важней у дзяцей развіць менавіта пісьменнасць, пасля ўжо яны набудуць камунікатыўныя навыкі. Перад дзевяцікласнікамі стаяла задача - зразумець тэму і ідэю тэксту, пасля скласці сваё апавяданне з захаваннем аўтарскіх рысаў і, канешне, кантралюючы граматыку і сінтаксіс.

Выпускныя экзамены ў школе - гэта нагода, каб паразважаць над тым, якімі яны павінны быць. Апошнім часам цэнтралізаванае тэсціраванне настаўнікі называюць найлепшым (з апошніх) спосабам праверкі ведаў. Да таго ж тэсціраванне - гуманнае, бо прапаноўвае некалькі адказаў на пытанне. А для пераказу трэба мець асаблівы талент, яго таксама пры адпаведнай спрактыкаванасці можна і спісаць, зборнікі бадай у кожнага вучня маюцца. Большасць філолагаў выступае за дыктант, які ўяўляе сабой тэст на пісьменнасць, а таксама паказвае начытанасць.

Дзевяцікласнікі Сласцёнаўскай школы-сада сваю настаўніцу не падвялі, Надзея Маханенка напісала на сваё "выдатна", Аляксандр Харытоненка і Наталля Маслава на 4/5, астатнія пацвердзілі свае гадавыя адзнакі. Хто імкнецца да якасці ведаў, той яе і атрымлівае.

**Святлана КІРСАНАВА.**



## Преемственный подход к внедрению информационных технологий

Преемственный подход к внедрению современных информационных технологий - от обучения в школе и подготовки специалистов до реального производства - наконец-то может быть опробован и в Республике Беларусь. Программу преемственного внедрения профессиональной чертежно-конструкторской системы КОМПАС, разработанной российской компанией "Аскон", предлагает фирма "Бевалекс", являющаяся одним из лидеров системной интеграции в Республике Беларусь. В рамках этой программы фирма "Бевалекс" совместно с Учреждением "Главный информационно-аналитический центр Минобразования Республики Беларусь" планируют безвозмездную передачу в учебные заведения среднего и среднего специального образования 100 дисков со специальной, адаптированной для среднего образования версией КОМПАС 3D LT 5.10, а также производство неограниченного количества копий данного CD на носителях участника программы.

Единственным условием участия в данной программе является использование программного обеспечения в учебном процессе.

В состав комплекта, передаваемого участникам программы, входит следующее программное и методическое обеспечение: КОМПАС 3D LT 5.10, КОМПАС 4 для DOS, КОМПАС-Школьник для DOS, КОМПАС Viewer 5.10; учебные пособия (в формате Adobe Acrobat): Потемкин А.Е. "Инженерная графика", Богуславский А.А. "Система Компас 3D LT", Кочеткова Н.Н. "Компьютерное черчение", учебные пособия по "Компас-Школьник"; демонстрационные ролики работы в Компас 3D.

Система КОМПАС-3D LT полностью обеспечивает курс "Инженерная графика" от школы до ВУЗа. Она может успешно использоваться студентами машиностроительных, приборостроительных, архитектурных, строительных вузов и техникумов при выполнении домашних заданий, курсовых и дипломных работ. Предоставляемое программно-методическое обеспечение, включающее 16 лабораторных работ, позволяет преподавателям информационных технологий, геометрии, черчения использовать в полной мере возможности комплекса.

Система трехмерного проектирования дает возможность достаточно простыми средствами познакомить учащихся с процессом создания физической модели изделия методом прототипирования.

По всем вопросам обращаться в Учреждение "Главный информационно-аналитический центр Минобразования РБ" по адресу:

**220088, ул.Захарова, 59, к.306, тел. 236-19-46**
**E-mail: fond@cacedu.unibel.by, komik@cacedu.unibel.by**

***Паважаныя чытачы!***

**Працягваецца падпіска на другое паўгоддзе 2002 года. Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў агенцтве "Белсаюздруку".**

газета НАСТАЎНІЦКАЯ — выданне асветнікаў Рэспублікі Беларусь

**Падпісны кошт на паўгоддзе для індывідуальных падпісчыкаў — 13200 рублёў;**
**на квартал - 6600 рублёў;**
**на месяц - 2200 рублёў.**
**Па ведамаснай падпісцы:**
**на паўгоддзе — 27000 рублёў**
**на квартал - 13500 рублёў;**
**на месяц - 4500 рублёў.**
**Індэкс для індывідуальнай падпіскі — 63867, для ведамаснай — 63363.**

# Як пераадолець "эфект вожыка"

## Нататкі з рэспубліканскага семінара-практыкуму наменсікаў дырэктараў, псіхолагаў і сацыяльных педагогаў ПТВ

***Бадай упершыню актуальная праблема сацыяльна-псіхалагічнага суправаджэння навучэнцаў са складанасцямі асобаснага развіцця стала прадметам шырокага абмеркавання і вывучэння ўдзельнікамі рэспубліканскага семінара, на які прыехалі намеснікі дырэктараў па навучальна-выхаваўчай рабоце, псіхолагі, сацыяльныя педагогі прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў. Семінар-практыкум пачаў сваю працу ў Барысаве, на базе Барысаўскага ПТВ-121 машынабудавання, і завяршыўся ў Жодзінскім прафесійным ліцэі.***

Прафілактыка дэвіянтных паводзін падлеткаў - адна з важнейшых задач сацыяльных педагогаў, педагогаў-псіхолагаў, выкладчыкаў, выхавальнікаў у дзейнасці сістэмы прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў. Менавіта сёння асабліва запатрабаваны даследчаны падыход гэтых спецыялістаў у вырашэнні праблем своечасовага выяўлення і карэкцыі адхіленняў у паводзінах праблемных падлеткаў.

Не сакрэт, што ў прафесійна-тэхнічныя вучылішчы ідуць набываць спецыяльнасць часцей за ўсё падлеткі з няпоўных, шматдзетных, дрэнна забяспечаных, праблемных сем'яў, паступаюць сюды на навучанне і сацыяльныя сіроты са школ-інтэрнатаў - часам з некаторымі адхіленнямі ў псіхічным і фізічным развіцці. Гэты кантынгент навучэнцаў патрабуе да сябе асаблівай увагі і клопату з боку сацыяльных педагогаў, псіхолагаў, куратараў груп, выхавальнікаў, кіраўнікоў.

На пленарным пасяджэнні семінара-практыкуму навукоўцамі, педагогамі-практыкамі, работнікамі праваахоўных органаў было акрэслена кола праблем для абмеркавання. Гэта каардынацыя намаганняў асобных спецыялістаў у пошуку шляхоў сумеснага ўздзеяння і ўплыву на паводзіны праблемных падлеткаў, выкарыстанне новых псіхолага-педагагічных тэхналогій і методык, перадавога вопыту, сістэмнасць у псіхолага-педагагічным суправаджэнні выхаваўчага працэсу, асобасна-індывідуальны падыход да кожнага "цяжкага" падлетка, яго сям'і.

Абмеркаванне гэтых праблем прадоўжылася ў рабоце трох секцый.

На пытанне, як пераадолець "эфект вожыка" - так вобразна выказаўся прафесар акадэміі МУС В.Б.Шабанаў пра дачыненне педагогаў да выхавання праблемных падлеткаў, - імкнуліся знайсці адказ сацыяльныя педагогі ў дыскусіі, якая распачалася паміж удзельнікамі размовы.

Навукоўцы прапануюць тэарэтычныя падыходы, практыкам не хапае канкрэтных методык і тэхналогій. Сацыяльны педагог, на думку спецыялістаў праваахоўных органаў, павінен быць універсалам у сваёй працы, а не толькі праваабаронцам падлетка, хаця гэта - яго асноўная задача. Яму трэба добра ведаць законы, правы і абавязкі падлетка, сям'і перад дзяржавай, умець вызначыць сутнасць правапарушэння і растлумачыць юнаку яго адказнасць за свае паводзіны. А яшчэ сацыяльны педагог павінен пастаянна вывучаць асяроддзе, у якім жыве падлетак, групу аднагодкаў, вызначаць у ёй лідэра і прафесійна ўздзейнічаць на паводзіны, менавіта лідэра, схіляючы яго на свой бок. Для такога ўздзеяння і патрабуюцца канкрэтныя псіхолага-выхаваўчыя методыкі. На жаль, як прагучала на семінары, 60 працэнтаў сацыяльных педагогаў сістэмы ПТА пакуль што не маюць адпаведнай спецыяльнай падрыхтоўкі. Таксама недастаткова ў ПТВ і педагогаў-псіхолагаў.

Сацыяльныя педагогі выказаліся наконт таго, што ім як спецыялістам не хапае належнай прававой базы для больш эфектыўнай працы з сацыяльнымі сіротамі, праблемнымі сем'ямі. І падтрымка іх дзейнасці павінна ісці з боку дзяржавы, якая пакуль на тых жа сацыяльных сірот выдзяляе немалыя сродкі і ў той жа час не рэгулюе, не кантралюе іх расходаванне кожным асобным падлеткам, і такім чынам правакуе апошняга на спажывецкія адносіны да жыцця, безадказнасць за свае паводзіны і ўчынкі.

Праблема сацыяльнага сіроцтва, навучання і выхавання дзяцей з некаторымі адхіленнямі ў развіцці, стаіць вельмі востра, і непасрэдна сутыкаюцца з ёю работнікі ПТВ, куды прыходзяць за набыццём прафесіі такія дзеці.

Яе магчымае вырашэнне - у аб'яднанні намаганняў педагогаў, псіхолагаў, сацыяльных работнікаў, выхавальнікаў з грамадскімі і дзяржаўнымі органамі, ва ўдасканаленні прававой базы, паляпшэнні сацыяльна-эканамічнага становішча сям'і, павышэнні яе педагагічнай адукаванасці.

Аднак, як часта лёс аднаго асобна ўзятага падлетка цалкам залежыць ад таго, які педагог з ім непасрэдна працуе, у якім асяродку (спрыяльным ці наадварот) ён жыве. І калі побач з ім аказваецца спецыяліст "ад бога", здольны адшукаць той адзіны "ключык" да добрага ў ягонай душы, убачыць яго лепшыя якасці характару, даць яму паверыць у сябе - гэты падлетак абавязкова знойдзе свой, адзіны, правільны шлях у жыцці.

Такіх таленавітых педагогаў у сістэме нашай прафтэхадукацыі шмат.

І сведчанне таму - вопыт працы педагагічных калектываў Барысаўскага ПТВ-121 (дырэктар А.Барадко). Жодзінскага прафесійнага ліцэя (дырэктар І.Таўпека), Барысаўскага прафесійнага ліцэя №1 (намеснік дырэктара Н.Навіцкая), з якімі пазнаёміліся ўдзельнікі семінара-практыкуму. А яшчэ яны ўбачылі на сцэне Барысаўскага ПТВ-121 выступленне КВЗ каманд-пераможцаў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў з Барысава, Дзяржынска, Маладзечна. Дарэчы, сярод іх былі і дзеці з праблемамі ў паводзінах, аднак на сцэне яны прадэманстравалі сапраўдныя артыстычныя здольнасці, тонкі гумар, знаходлівасць і парадавалі ўсіх сваім талентам.

Арганізатары семінара-практыкуму (упраўленне адукацыі Мінскага аблвыканкама) паказалі цікавыя навучальныя ўстановы сістэмы прафтэхадукацыі вобласці з добрай як матэрыяльна-тэхнічнай базай, так і са своеасаблівай, адметнай сістэмай навучальна-выхаваўчай дзейнасці. Паклапаціліся і аб культурнай частцы семінара - усе яго ўдзельнікі наведалі Бярэзінскі запаведнік.

На заключным пасяджэнні "круглага стала" кіраўнікі секцый: псіхолагі, сацыяльныя педагогі, намеснікі дырэктараў па навучальна-выхаваўчай рабоце выказалі шэраг слушных прапаноў па арганізацыі больш эфектыўнага сацыяльна-псіхалагічнага суправаджэння навучальна-выхаваўчага працэсу праблемных падлеткаў за кошт павышэння прафесійнай кваліфікацыі сацыяльных педагогаў, псіхолагаў, куратараў груп, майстроў вытворчага навучання, арганізацыі іх далейшага навучання і абмену вопытам у метадычных аб'яднаннях, шляхам удасканалення сістэмы кіравання ПТА, больш дакладнай каардынацыі гэтай работы з грамадскімі і дзяржаўнымі арганізацыямі, соцыумам, сям'ёй, выказалі ўдзячнасць арганізатарам за тое, што нарэшце-такі спецыялісты змаглі сустрэцца, каб абмеркаваць набалелыя праблемы ў практычнай дзейнасці, абмяняцца вопытам, падыскутаваць, атрымаць свежую інфармацыю па гэтай праблематыцы.

У рабоце семінара-практыкуму прымаў удзел начальнік Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Г.А.Бутрым, спецыялісты Міністэрства адукацыі, навукоўцы РІПА, работнікі ўпраўлення адукацыі Мінскага аблвыканкама, метадысты, спецыялісты МУС, вышэйшай школы.

**Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**

Канферэнцыі

# Аснова - любоў і згода ў сям'і

***Як трэба выхоўваць дзяцей, каб яны не сталі болем душы для бацькоў, як дапамагчы навучэнцу не разгубіцца ў кругавароце паўсядзённых турбот? Адказы на гэтыя пытанні сумесна шукаюць інжынерна-педагагічны калектыў аднаго са старэйшых вучылішч рэспублікі ДПТВ-35 імя М.Ц.Лынькова чыгуначнага транспарту і бацькі навучэнцаў. Адна з добрых традыцый вучылішча - правядзенне штогадовых бацькоўскіх канферэнцый, прысвечаных вышэйазначанай тэме.***

Нядаўняя канферэнцыя мела назву: "Маральна-духоўнае выхаванне ў сям'і і ў вучылішчы". Мэта - "Накіраваць сумесныя намаганні бацькоў і інжынерна-педагагічнага калектыву на фарміраванне ў навучэнцаў агульначалавечых норм маралі, захаванне псіхафізічнага здароўя і забеспячэнне ўмоў для станаўлення асобы грамадзяніна, развіццё патрэбы ў здаровым ладзе жыцця".

Перад пачаткам канферэнцыі бацькі і госці пазнаёміліся з выставай тэхнічнай і мастацкай творчасці навучэнцаў. Усе экспанаты навучэнцы падрыхтавалі ў гуртках, якіх у вучылішчы каля 12-ці. Асабліва зацікавіліся бацькі прыгожым афармленнем выставы.

Адкрыў бацькоўскую канферэнцыю дырэктар вучылішча Іван Васільевіч Таленец.

Перад прысутнымі выступіла загадчыца кабінета абласнога вучэбна-метадычнага цэнтра прафадукацыі Людміла Мікалаеўна Тамкова. У сваім дакладзе "Узаемадзеянне навучальнай установы і сям'і" яна заклікала бацькоў, каб яны знайшлі час для разумнай, патрабавальнай, жыватворнай любові, і потым дзеці абавязкова адкажуць узаемнасцю, адзначыла, што выхоўваць дзяцей трэба адначасова і ў строгасці, і ў любові. Нельга прывучаць дзяцей ні ў чым не сустракаць адмовы, трэба вучыць іх кіраваць сваімі жаданнямі, правільна адносіцца да слоў "трэба", "нельга". Бацькі - сябры свайго дзіцяці, яны павінны паважаць яго думкі. У сям'і дзіця набывае вопыт паводзін, веды аб маральнасці, духоўнасці. Бацькам трэба сачыць за сваімі паводзінамі, не быць абыякавымі да дзяцей, цікавіцца іх справамі, вучобай, вольным часам, праяўляць цярпенне, вытрымку.

Урач-нарколаг абласнога наркадыспансера С.М.Самучэнка ў сваім выступленні "Негатыўны ўплыў алкаголю і наркатычных сродкаў на здароўе падлеткаў" пазнаёміла з фактамі росту ўжывання наркотыкаў непаўналетнімі, прывяла прыклады, пералічыла прыкметы, па якіх бацькі могуць вызначыць, ці ўжывае падлетак наркатычныя сродкі, што можа дапамагчы своечасова падтрымаць дзіця.

Цікавым было для прысутных выступленне Вадзіма Іерэя, настаяцеля Храма ў гонар Іконы Божай Маці Усіх Замучаных Радасцей, кіраўніка духоўна-асветніцкага цэнтра на тэму "Маральнае і патрыятычнае выхаванне ў традыцыях праваслаўя". Ён падкрэсліў, што тэлебачанне часам адыгрывае негатыўную ролю ў выхаванні падлеткаў, бо з экранаў тэлевізараў на нас навальваецца жорсткасць, насілле. Злачынства стала нормай, дзеці да гэтага прывыкаюць і ўжо не здзіўляюцца. Нас выхоўваюць на ўзорах заходняй, не ўласцівай нам культуры. Вадзім Іерэй адзначыў, што ў нас багатая гісторыя, традыцыі, параіў бацькам разам з дзецьмі паглядзець фільм "Вызваленне Беларусі". Ён сказаў: "Маці гаворыць свайму дзіцяці тыя ласкавыя словы, якія чула ад сваёй маці, а калі не чула, то не зможа сказаць. Трэба выхаванне ў сям'і пачынаць бацькам з сябе. У сям'і павінны панаваць любоў, гонар за свой народ, што мы - беларусы".

Выкладчыца вучылішча Валянціна Анатольеўна Пруднікава параіла бацькам, каб у сваіх сем'ях адмоўныя эмоцыі, трывожнасць, напружанасць яны звялі да нуля. Дзяцей трэба выхоўваць дабром, вучыць міласэрнасці, спачуванню чужому гору толькі на асабістым прыкладзе.

На канферэнцыі былі выпрацаваны і зацверджаны рэкамендацыі, у якіх звернута ўвага бацькоў, педагогаў, выхавацеляў на неабходнасць больш шырока выкарыстоўваць выхаваўчы патэнцыял сям'і, педагогаў вучылішча, падтрымліваць цесную сувязь паміж бацькамі і майстрамі вытворчага навучання, куратарамі груп.

**Наталля САМУСЕВА,**
**выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Гомельскага ДПТВ-35 імя М.Лынькова.**

Вопыт

# Дапамагаем рабіць свядомы выбар

***У Маладзечанскім ПТВ-21 вызначаны асноўныя напрамкі ўдзелу педагога-псіхолага ў праектаванні і псіхалагічным суправаджэнні вучэбна-выхаваўчага працэсу з улікам таго, што падчас яго адбываецца і навучанне, і выхаванне, і развіццё асобы. А ў аснове любога праектавання ляжыць вызначэнне мэт і задач дзейнасці. Таму асноўная ўвага педагога-псіхолага накіравана на стварэнне неабходных умоў для псіхалагічнага развіцця асобы навучэнца ў цеснай сувязі з яго прафесійным станаўленнем, для прадуктыўнага руху навучэнцаў па тых шляхах, якія яны выбралі самі з дапамогай педагогаў і сям'і (а часам і ў процівагу ім).***

Задача педагога-выхавальніка і псіхолага - дапамагаць маладому чалавеку рабіць свядомы асабісты выбар у гэтым складаным свеце, вырашаць непазбежныя канфлікты, асвойваць найбольш значныя і эфектыўныя метады пазнання, узаемін, разумення сябе і іншых. Таму адным з асноўных кампанентаў працэсу суправаджэння з'яўляецца стварэнне спецыяльных сацыяльна-псіхалагічных умоў для аказання дапамогі дзецям, якія маюць праблемы ў псіхалагічным развіцці і навучанні.

Тут важна звярнуць увагу на тых падлеткаў, якія маюць пэўныя праблемы з засваеннем вучэбнага матэрыялу, у паводзінах, ва ўзаемінах з дарослымі і равеснікамі. Для аказання псіхолага-педагагічнай дапамогі такім дзецям у нашым вучылішчы склалася сістэма дзеянняў, якая дазваляе пераадольваць гэтыя праблемы, знайсці да кожнага навучэнца індывідуальны падыход.

Гэтую работу мы пачынаем у жніўні: знаёмімся з медыцынскімі заключэннямі, з сям'ёй кожнага навучэнца, адзнакамі, характарыстыкамі са школ, дакументамі органаў юстыцыі на сірот. Такім чынам да 1 верасня вымалёўваецца сацыяльны партрэт навучэнцаў першага курса.

***Эфектыўнасць псіхалагічнага трэнінгу зніжаецца, калі падлетак не хоча дабіцца змен у сваіх паводзінах... Скрыты трэнінг дае магчымасць далучыць падлеткаў да такой дзейнасці, у якой яны, абапіраючыся на свае моцныя бакі, як бы "выпадкова" асвойваюць раней не даступныя для іх віды дзейнасці.***

Першае дыягнастычнае абследаванне сёлета праводзілася па методыцы, дзякуючы якой былі выяўлены навучэнцы з нізкімі камунікатыўнымі здольнасцямі. У гэты ж час праводзіцца псіхалагічная асвета навучэнцаў на тэмы: "Ці ўмеем мы гаварыць "так" і "не"?", "Уменне стасавацца - прыроджанае?", "Рэзервы ўзаемін".

Другі этап у рабоце - больш складаны: выяўленне групы рызыкі сярод навучэнцаў першага курса. Важная роля ў прафілактыцы проціпраўных дзеянняў падлеткаў належыць мерам па выяўленню і ранняму папярэджанню асацыяльных паводзін. Асацыяльныя паводзіны - складаная з'ява. Яе вытокі могуць ляжаць у педагагічнай запушчанасці, у негатыўным жыццёвым вопыце, канфліктных узаемінах з бацькамі, равеснікамі і педагогамі.

Існуюць фактары, якія аказваюць уплыў на фарміраванне асацыяльнай устаноўкі навучэнцаў. Першы - індывідуальна-асобасныя асаблівасці навучэнцаў: саматычны стан, разумовае і фізічнае развіццё, асаблівасці характару. Самі па сабе яны не становяцца асновай асацыяльнай устаноўкі, але адыгрываюць ролю каталізатараў.

Другі фактар - уплыў сям'і, вучэбнай групы, асяроддзя таварышаў, двара, вуліцы - акружэння, якое вызначае накіраванасць поглядаў, звычак, інтарэсаў, перакананняў, здольнасцей, рэалізацыі жаданняў, імкненняў.

Такія паводзіны - не вынік імгненнага ўздзеяння якіх-небудзь неспрыяльных абставін, а вынік працяглага працэсу.

Адным са спосабаў выяўлення групы рызыкі і арганізацыі індывідуальнай выхаваўча-прафілактычнай работы з'яўляецца вывучэнне асаблівасцей характару навучэнца. Тут асаблівую ўвагу трэба звяртаць на празмерна ўзмоцненыя рысы гэтага характару - у псіхолагаў яны называюцца акцэнтуацыямі. З'яўляючыся крайнімі варыянтамі нормы, акцэнтуацыі характару самі па сабе не могуць быць клінічным дыягназам. Яны - толькі глеба для развіцця псіхагенных расстройстваў (вострых афектыўных рэакцый, неўрозаў, сітуацыйна абумоўленых паталагічных парушэнняў паводзін, псіхапатычных праяўленняў, псіхозаў). Падлеткаваму ўзросту ўвогуле ўласціва пэўная дысгарманічнасць, акцэнтуіраванасць характару, а пры ўздзеянні негатыўных псіхагенных фактараў могуць адбывацца часовыя парушэнні адаптацыі, адхіленні ў паводзінах.

Псіхолагі дыягнастуюць дзесяць тыпаў акцэнтуацый: дэманстратыўны, педантычны, "застревающий", узбуджальны, гіпертымічны, дыстымічны, трывожны, цыкламітычны, экзальтаваны, эматыўны.

Кожнаму навучэнцу (па запыту) выдаюцца псіхалагічная характарыстыка і кароткія рэкамендацыі па карэкцыі характару, калі гэта неабходна. Потым складаецца пратакол і статыстыка па кожнай групе. Тут выдзяляюцца падлеткі з выразнымі акцэнтуіраванымі рысамі і група рызыкі. З гэтымі навучэнцамі праводзіцца паглыбленая дыягностыка, назіранне за іх паводзінамі (сацыяльным педагогам, майстрам вытворчага навучання, куратарам групы), за іх учынкамі, перажываннямі, якія праўляюцца ў размове, міміцы, голасе. Майстрам вытворчага навучання і куратарам выдаюцца рэкамендацыі па рабоце з акцэнтуіраванымі падлеткамі, а педагог-псіхолаг праводзіць індывідуальную або групавую работу з гэтай катэгорыяй навучэнцаў, вызначае напрамкі прафілактыкі адыктыўных паводзін, шукае альтэрнатыўныя спосабы задавальнення патрэб падлеткаў ва ўзаемадзеянні з іншымі людзьмі, праводзіць карэкцыю дэзадаптыўных паводзін метадам скрытага псіхалагічнага трэнінгу.

Справа ў тым, што эфектыўнасць псіхалагічнага трэнінгу зніжаецца, калі падлетак не хоча дабіцца змен у сваіх паводзінах, ён становіцца абсалютна неўспрымальным да трэнінгу. І нават у выпадку шчырай зацікаўленасці ў станоўчых зменах уступаюць у сілу механізмы псіхалагічнай абароны. Скрыты трэнінг дае магчымасць далучыць падлеткаў да такой дзейнасці, у якой бы яны, абапіраючыся на свае моцныя бакі, як бы "выпадкова" асвойваюць раней не даступныя для іх віды дзейнасці.

Задача псіхолага - суправаджаць навучэнцаў са скрытай акцэнтуацыяй. Гэта падлеткі, у якіх у звыклых умовах рысы пэўнага тыпу характару праяўляюцца слаба або не праяўляюцца зусім. Нават пры працяглым назіранні, разнапланавых кантактах і дэталёвым знаёмстве з навучэнцам бывае цяжка скласці выразнае ўяўленне аб тыпе яго характару. Аднак тып характару (часам нечакана) можа ярка выявіцца пад уплывам тых або іншых фактараў. Напрыклад, скрытая акцэнтуацыя па ўзбуджальнаму тыпу можа праявіцца пры канфліктах з-за ўшчымлення інтарэсаў або пад уздзеяннем алкагольнага ап'янення. Пры рабоце з такімі навучэнцамі ўлічваем і тое, што падлеткам узбуджальнага тыпу акцэнтуацыі ўласцівы афектыўныя рэакцыі, сітуацыйна абумоўленыя парушэнні паводзін дэвіянтнага, дэлінквентнага, адыктыўнага, крымінальнага тыпаў, а таксама псіхапатычнага развіцця.

Скрытая акцэнтуацыя па няўстойліваму тыпу выяўляецца, калі падлетак, які да пэўнага моманту быў пад строгім наглядам, раптам аказваецца пазбаўленым пастаяннага кантролю. Ён можа трапіць у кампанію асацыяльнай накіраванасці, пачынае ўжываць алкаголь і ўчыняе правапарушэнні. Пры выхаванні па тыпу гіпапратэкцыі такая акцэнтуацыя можа перарасці ў псіхапатыю рознай этыялогіі.

Майстры вытворчага навучання і куратары груп знаёмяцца з фактарамі, якія выклікаюць праявы дэвіянтных паводзін сваіх выхаванцаў на семінары "Псіхалогія дэвіянтных паводзін у падлеткавым узросце". Праблемы ў сваіх групах яны адзначаюць у анкеце "Навучэнцы групы".

Калі тып акцэнтуацый не змешаны, то карэкцыйную работу праводзіць лягчэй. А карэкцыі змешаных і амальгамных тыпаў навучэнцы паддаюцца цяжка. Яны фарміруюцца як вынік напластавання рыс аднаго тыпу на эндагеннае ядро другога з-за няправільнага выхавання або іншых пастаянна дзеючых псіхагенных фактараў. Для высвятлення прычын сацыяльны педагог і псіхолаг цесна супрацоўнічаюць з сям'ёй такога навучэнца.

***Падлеткам цяжка пераадолець рознага роду сітуацыі адаптацыі, узаемін, навучання. Часта малады чалавек не разумее прычын сваіх няўдач і кідаецца з крайнасці ў крайнасць, не ведае, у якой дзейнасці сябе знайсці. Наша задача - арганізаваць для яго сітуацыю поспеху.***

З мэтай высвятлення ўплыву на навучэнца стасункаў у сям'і праводзяцца гутаркі з бацькамі, анкетаванне бацькоў, з дапамогай чаго выдзяляюцца найбольш распаўсюджаныя сямейныя парушэнні: пашырэнне сферы бацькоўскіх пачуццяў, перавага дзіцячых якасцей, праекцыя ўласных непажаданых якасцей, парушэнне інтэграцыі сям'і, выхаваўчая няўпэўненасць і інш.

З вынікаў работы з сям'ёй відаць, што сям'я выступае крыніцай перажыванняў псіхагеннага характару. Па-першае, таму, што залежнасць падлетка ад сям'і вялікая, у сям'і задавальняецца значная частка яго патрэб: матэрыяльна-бытавых, эмацыянальных. Па-другое, менавіта тут адбываецца жорсткі кантроль за паводзінамі падлетка. Вялікую ўвагу ў час карэкцыі паводзін такіх навучэнцаў і іх бацькоў звяртаем на тое, што падлетак у гэты перыяд свайго жыцця ўступае ў этап авалодвання сацыяльнымі ролямі дарослага чалавека, пашыраецца кола яго ўзаемін, сувязей з нефармальнымі групамі.

Гэтым пытанням удзяляе шмат увагі псіхалагічная служба на бацькоўскіх сходах, асноўнымі тэмамі якіх з'яўляюцца: "Уплыў сям'і на развіццё асобы падлетка", "Дзеянні сям'і па прафілактыцы сексуальных дэвіяцый у юнацкім узросце", "Здаровы лад жыцця", "Акцэнтуацыі характару падлеткаў - прычыны або вынік канфліктаў у сям'і", "Што такое агрэсія, якія прычыны яе праяўлення, чым яна небяспечная для падлеткаў", "Роля бацькі ў выхаванні дзяцей". Пасля апытання бацькоў і высвятлення кола праблем наладжваем вечары пытанняў і адказаў.

Улічваючы тое, што, сутыкнуўшыся з праблемай псіхалагічнага нездароўя падлеткаў, бацькі не заўсёды могуць адэкватна адрэагаваць на сітуацыю, часам робяць памылковыя крокі, што ўскладняе прафілактычную і карэкцыйную работу з падлеткамі. Педагог-псіхолаг працуе ў цесным кантакце з медыцынскімі тэрытарыяльнымі аб'яднаннямі, з Цэнтрам сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей, з Беларускай асацыяцыяй практычных і медыцынскіх псіхолагаў, РІПА, ВМЦ упраўлення адукацыі Мінскага аблвыканкама.

Падлеткам цяжка пераадолець рознага роду сітуацыі адаптацыі, узаемін, навучання. Часта малады чалавек не разумее прычын сваіх няўдач і кідаецца з крайнасці ў крайнасць, не ведае, у якой дзейнасці сябе знайсці. Наша задача - арганізаваць для яго сітуацыю поспеху. Бо не сакрэт, што толькі 15-20 працэнтаў навучэнцаў маюць дастаткова высокі ўзровень інтэлектуальных здольнасцей, значыць, гэтыя падлеткі могуць пры традыцыйнай тэхналогіі навучання быць харашыстамі або выдатнікамі. А для 75-80 працэнтаў дзяцей сучасныя патрабаванні да навучання з'яўляюцца траўміруючымі (стрэсагеннымі). Таму псіхолаг пры карэкцыйнай рабоце вялікую ўвагу ўдзяляе асобасна арыентаванаму падыходу ў навучанні і выхаванні навучэнцаў.

Для гэтага распрацаваны мэтавыя напрамкі комплекснай праграмы "Я - асоба", з дапамогай якіх педагогі-псіхолагі і выхавальнікі імкнуцца да павышэння асобаснай значнасці кожнага навучэнца, далучэнню яго да розных відаў дзейнасці.

**Святлана МІХАЛЕЎСКАЯ,**
**педагог-псіхолаг Маладзечанскага ПТВ-21 будаўнікоў.**

# У вучылішчах вядзецца псіхалагічная асвета і псіхапрафілактыка

***У педагагічных калектывах, як і ў сем'ях, часта здараюцца розныя канфлікты, у аснове якіх - псіхалагічнае невуцтва дарослых, няўменне і нежаданне прыслухацца адзін да аднаго, зразумець, дараваць, саступіць, паспачуваць. А значыць, практычнаму псіхолагу вельмі важна павышаць узровень псіхалагічных ведаў тых людзей, якія працуюць з дзецьмі. Псіхалагічная асвета як адзін з напрамкаў дзейнасці педагога-псіхолага і ёсць далучэнне дарослых і дзяцей да псіхалагічных ведаў.***

Асноўны сэнс гэтай асветы заключаецца ў тым, каб знаёміць выхавальнікаў, настаўнікаў і бацькоў з асноўнымі заканамернасцямі і ўмовамі паўнацэннага псіхалагічнага развіцця дзіцяці; папулярызаваць і тлумачыць вынікі найноўшых псіхалагічных даследаванняў; фарміраваць патрэбнасць у псіхалагічных ведах, жаданне выкарыстоўваць іх у рабоце з дзіцем або ў інтарэсах развіцця ўласнай асобы; знаёміць вучняў з асновамі самапазнання, самавыхавання; дасягнуць разумення неабходнасці практычнай псіхалогіі і работы псіхолага ў навучальнай установе.

Формы псіхалагічнай асветы могуць быць самымі рознымі: лекцыі, гутаркі, семінары, выстаўкі, знаёмства са спецыяльнай літаратурай. Пры гэтым зусім неабавязкова ўсю гэтую работу праводзіць самому. Псіхолаг можа звяртацца за дапамогай да выкладчыкаў, майстроў, аднак змест і рэалізацыю ўсіх гэтых форм работы забяспечвае сам педагог-псіхолаг. Важна, каб любыя формы псіхалагічнай асветы не праходзілі на абстрактна-тэарэтычным узроўні, а мелі прадметам свайго абмеркавання канкрэтныя праблемы пэўнага вучня, гэта значыць наглядна паказвалі б, што псіхалагічныя веды маюць непасрэднае дачыненне да вырашэння канкрэтных праблем навучання і выхавання.

Эфект псіхалагічнай асветы большы, калі веды падаюцца даваць у форме дыспутаў, гутарак, гульняў. Так, напрыклад, я прымала ўдзел у пасяджэнні абласной секцыі педагогаў-псіхолагаў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў Гомельскай вобласці, якое праходзіла на базе ПТВ №224. Педагог-псіхолаг Галіна Віктараўна Атрохава наглядна прадэманстравала захапляючую гульню для вучняў "Стварэнне свету".

Пад гукі лёгкай музыкі ўсе прысутныя выправіліся ў падарожжа ў той час, калі свет яшчэ не быў створаны. У ім існавалі дзве сілы - дабро і зло і, вядома, зямля з яе прыроднымі асаблівасцямі. Удзельнічалі дзве каманды. У кожнай быў лідэр: у адной - Бог-тварэц, у другой - разбуральнік. Сілы дабра і зла, ствараючы свет, уступалі ў спрэчку, музыка сімвалізавала іх сутыкненне. Найбольш складанай і адказнай справай было стварэнне чалавека. Якіх якасцей у ім больш - станоўчых ці адмоўных? Калі добрых рыс набярэцца больш, дык перамога - за дабратворнасцю чалавека; калі ж больш адмоўных рыс - то чалавецтва будзе аддадзена ў рукі разбуральнай сілы. Вядома, гэта гульня. Але гульня, звязаная з жыццём, у выніку чаго вучні не толькі атрымліваюць пэўныя веды, але і развіваюць уяўленне, увагу, памяць, паляпшаюць сваё самаадчуванне і настрой, наладжваюць эмацыянальныя кантакты.

Псіхалагічная асвета цесна звязана з псіхапрафілактыкай.

Псіхапрафілактыка - спецыяльны від дзейнасці практычнага псіхолага, накіраваны на арганізацыю і правядзенне прафілактычных мерапрыемстваў, якія актыўна садзейнічаюць развіццю вучняў. Яна прадугледжвае: адказнасць за псіхалагічнае развіццё і фарміраванне асобы маладога чалавека ў навучальнай установе на кожным этапе навучання; своечасовае выяўленне такіх асаблівасцей дзяцей, якія могуць прывесці да пэўных цяжкасцей, адхіленняў у іх эмацыянальным і інтэлектуальным развіцці, у паводзінах і ўзаемінах; папярэджанне магчымых ускладненняў у сувязі з пераходам на новую ступень навучання.

Псіхапрафілактыка праводзіцца як з асобнымі вучнямі або іх групамі, так і з членамі педагагічнага калектыву, бацькамі, іншымі дарослымі, якія аказваюць уплыў на фарміраванне асобы дзіцяці.

У псіхапрафілактыцы ініцыятыва цалкам і поўнасцю зыходзіць ад самога псіхолага. Ён сам на аснове сваіх ведаў вызначае тое, аб чым можна папярэдзіць, што можна змяніць, параіць, каб стварыць спрыяльныя ўмовы для навучання і выхавання.

Змест псіхапрафілактычнай работы заключаецца ў распрацоўцы і рэалізацыі развіццёвых праграм для вучняў рознага ўзросту з улікам задач кожнага перыяду навучання. Тут работа псіхолага прадугледжвае аналіз усяго, што акружае дзіця і з чым яно мае справу: вучэбны працэс, выхаваўчыя мерапрыемствы, узаеміны з дарослымі і равеснікамі, паходы ў тэатр і выезды на прыроду, наведванне прадметных гурткоў і спартыўных секцый. Паралельна псіхолаг высвятляе, наколькі гэта садзейнічае псіхічнаму і асобаснаму развіццю вучня.

Псіхапрафілактычная работа забяспечвае паўнацэннае псіхалагічнае развіццё, фарміраванне матывацыйна-патрэбнаснай сферы, высокі ўзровень раскрыцця схільнасцей і здольнасцей, развіцця самасвядомасці.

Стварэнне спрыяльнага псіхалагічнага клімату ў навучальнай установе - вынік узаемадзеяння многіх кампанентаў. Цэнтральнымі сярод іх з'яўляюцца ўзаеміны дзяцей з дарослымі і аднагодкамі, а таксама - дарослых паміж сабой.

Прыклад псіхалагічнай асветы і псіхапрафілактычнай работы я назірала ў ПТВ №50 Светлагорска падчас правядзення секцыі педагогаў-псіхолагаў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў Гомельскай вобласці. Педагог-псіхолаг Алена Мікалаеўна Пунтус правяла адкрыты ўрок на тэму "Паняцце аб характары. Структура характару. Учынак і фарміраванне характару". Урок быў нетрадыцыйным, творчым і самабытным. На прыкладзе рэальных жыццёвых сітуацый вучні разважалі над пытаннямі: якія яны, якімі б хацелі быць і што для гэтага трэба рабіць? Аказваецца, чалавек можа быць разумным, працавітым, сумленным, калі ў яго ёсць мэта. Школьнікі даведаліся, што існуюць блізкія і далёкія мэты, што нельга жыць эгаістычна, а трэба думаць пра іншых. На ўроку яны атрымалі магчымасць паразважаць, якімі рысамі характару трэба валодаць, каб стаць творчым чалавекам? Чым адрозніваецца рыба ад бервяна? У якіх сітуацыях мы паводзім сябе, як рыба, у якіх - як бервяно? Аказваецца, існуе дзесяць запаветаў, якія трэба выконваць.

Мяне ўразіла псіхалагічная падрыхтаванасць вучняў. Яны былі поўнасцю разняволенымі, свабоднымі і настолькі захоплены тым, што адбывалася, што нават пасля заканчэння ўрока не хацелі разыходзіцца.

На наглядных прыкладах ПТВ №50 Светлагорска і ПТВ №224 Гомеля педагогі-псіхолагі прафтэхвучылішчаў Гомельскай вобласці пабачылі, як можна арганізаваць псіхалагічную асвету і псіхапрафілактыку на практыцы, як трэба даносіць псіхалагічныя веды да вучняў, як ладзіць прафілактычную работу.

**Валянціна ЗАЙЦАВА,**
**педагог-псіхолаг Прыбарскага ПТВ №185.**

Гомельская вобласць

Паэтычны каляндар

# Чэрвень

**6 чэрвеня** - дзень нараджэння Аляксандра Пушкіна (1799-1837).

**8 чэрвеня** - 35 гадоў з дня смерці Сяргея Гарадзецкага (1884-1967), рускага паэта.

**16 чэрвеня** - 135 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Бальмонта (1867-1942), рускага паэта.

**18 чэрвеня** - 965 гадоў з дня смерці Ібн Сіна (Авіцэны) (980-1037), вучонага, філосафа, урача, паэта.

**20 чэрвеня** - 70 гадоў з дня нараджэння Роберта Раждзественскага (1932-1994), рускага паэта.

**21 чэрвеня** - 205 гадоў з дня нараджэння Вільгельма Кюхельбекера (1797-1848), рускага паэта, дзекабрыста.

**25 чэрвеня** - 95 гадоў з дня нараджэння Арсенія Таркоўскага (1907-1989), рускага паэта, перакладчыка.

**28 чэрвеня** - 80 гадоў з дня смерці Веліміра Хлебнікава (1855-1922), паэта і празаіка, пачынальніка рускага футурызму.

### Аляксандр ПУШКІН

## Заклён

О, калі праўда, што ўначы,
Калі заснуць усе жывыя,
І месяц з неба, плывучы,
Асвеціць пліты векавыя,
О, калі праўда, што тады
Пусцеюць ціхія магілы,
Я выклікаю цень Ляілы:
Хутчэй, о сябар мой, сюды!

З'явіся, любы сэрцу цень,
Нібы калісь перад расстаннем:
Халоднай, як зімовы дзень,
І з тварам, скрыўленым рыданнем.
Прыйдзі, як зорка ў час бяды,
Прыкінься ветрыкам, прылівам
Ці нават прывідам жахлівым,
Мне ўсё адно: сюды, сюды!

Ці ж клічу цень дзеля таго,
Каб дакараць людзей зласлівых
За сябра лепшага свайго?
Ці зведаць тайны пліт маўклівых?
І не таму, што інады
Душу сумненнем разбіваю...
Хачу сказаць, што ўсё кахаю,
Што ўсё я твой: сюды, сюды!

### Сяргей ГАРАДЗЕЦКІ

## Ландыш

Пра што вы шэпчаце, кусты?
Пра бездань сіняй нематы?
Пра змрок начны ля ног тваіх,
Дзе ландыш беленькі прыціх?

Над ім стаіць гарачыня
І жыць яму - не болей дня.
А лета толькі падышло,
Раздзьмуўшы першае цяпло.

Ён, сумны, свет не пазнае,
Схіліўшы кубачкі свае.
Апошні раз ён празвініць
І перастане ўсіх п'яніць.

Зямля, калі ўпадзе імгла,
Адкіне жэмчуг са сцябла,
У грудзі прагныя ўдыхне
І паспяваць ёй скажа мне.

Яна дала, яна ўзяла,
Яна спляла ў адзін вянок
І слодчы першага цяпла
І смерці першы халадок.

### Канстанцін БАЛЬМОНТ

Я люблю далёкі след - ад вясла,
І мне ўцешна падысці - ад да зла.
І, не робячы яго, - паглядзець,
Як цяпельца, дзесь за мной, - будзе тлець.

Як я ў мроі падпаліў - гарады,
Водбліск зарава са мной - назаўжды.
О мой брат! Паэт і цар, дзе твой Рым?
Палім нешта мы, як ты, - і гарым!

### ІБН СІНА

## Рубаі

Мне ўсё падуладна, што ў словах схавана.
Праз іх я адкрыў і сусвет нечакана.
А вось ці спазнаў я сябе як належыць,
Сказаць не бяруся - сцвярджаць яшчэ рана.

### Роберт РАЖДЗЕСТВЕНСКІ

Мора ўстане, -
дыхне.
Акіяны -
за ім.
Захістае мяне
разам з шарам зямным!
А заснуць захачу -
стома доўгіх пагонь, -
да цябе
прылячу -
матыльком на агонь.
Хай ідуць, як заўжды,
пасярод мітусні
вельмі хутка -
гады
і, марудзячы, -
дні.

### Вільгельм КЮХЕЛЬБЕКЕР

## Доля рускіх паэтаў

Пакутвалі паэты ўсіх плямён,
Ды творца найцяжэй караў Расію.
Рылееў славу ведаў з першых дзён,
Ды быў у волю закаханы ён,
І сціснула пятля дачасна шыю.

Не ён адзін. Услед ішлі за ім,
Чароўнаю захопленыя марай,
І іншыя, каго скасіла кара,
Хто нёс агонь у сэрцы маладым,
А за пачуцці і любові і трывогі
Знішчалі ў ссылцы іх марозам ледзяным
І занявольвалі, кідаючы ў астрогі.

І там хвароба ў прыцемку сырым
Валіла з ног барацьбітоў адданых
Або рука забойцаў пагарджаных,
Што ўпотай пасылалі кулю ім.
Ці бунт натоўп падыме нараканнем,
І ён таго на часткі разарве,
Хто над зямлёй у бляску праплыве,
Заліўшы родную краіну ззяннем.

### Арсеній ТАРКОЎСКІ

Вось і лета прайшло,
Быццам і не бывала.
Сонца блісне - цяпло,
Толькі гэтага мала.

Штось і збыцца магло -
І красой пяціпалай
Прама ў рукі лягло,
Толькі гэтага мала.

І дарэмна ні зло,
Ні дабро не прапала,
І шугала святло,
Толькі гэтага мала.

Браў і лёс пад крыло,
І жыццё ратавала.
Побач шчасце ішло,
Толькі гэтага мала.

І лістоту на тло
Не паліла навала...
Дзень прамыты, як шкло,
Толькі гэтага мала.

### Велімір ХЛЕБНІКАЎ

## Заклён смехам

О, рассмейцеся, смехуны!
О, засмейцеся, смехуны!
Што смяюцца смешыкі, што смяянствуюць смяяльна.
О, засмейцеся смяяльна!
Надсмяяльныя рассмешышчы - смех усмейных смехуноў!
Высмейся ж ты рассмяяльна, смех надсмейных смеюноў!
Смейева, смейева,
Засмей, асмей, смешкі-смешыкі,
Смяюнчыкі, смяюнчыкі!
О, рассмейцеся, смехуны!
О, рассмейцеся, смеюны!

**Пераклаў Яўген МІКЛАШЭЎСКІ.**

# Хто сплятае "Беларускі вянок"

***Каманда навучэнцаў прафесійна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў Мінска стала пераможцай Рэспубліканскага фестывалю дэкаратыўна- прыкладной творчасці з паэтычнай назвай "Беларускі вянок". У яго шматколернае суквецце мінчане ўплялі сваё майстэрства.***




На працягу ўсяго спаборніцтва сталічныя падлеткі займалі першыя пазіцыі. А дыстанцыю фестываля можна па праву лічыць стайерскай, ды яшчэ з бар'ерамі. Адных толькі конкурсаў было цэлых пяць. Ды якія!

Кожны - быццам сапраўдны экзамен, дзе правяраюцца набытыя ў час вучобы веды і ўменні.

Як расказала адна з арганізатараў фестывалю, галоўны інспектар упраўлення прафесійна-тэхнічнай адукацыі Міністэрства адукацыі Галіна Гладкая, "Беларускі вянок" праводзіцца толькі другі раз, і пэўнага вопыту ў яго правядзенні пакуль няма. Але ж творчыя конкурсы, якія прайшлі папярэдне, пацвердзілі высокую эфектыўнасць і значнасць мерапрыемстваў менавіта такога ўзроўню.

Мяркуйце самі. Чаго толькі каштуе "Горад майстроў", дзе жывуць рамеснікі і іх рамёствы, дзе пануе такое шматграннае, такое яскравае прафесійнае майстэрства! А размясціўся ён, як і ўвесь фестываль, у Рэспубліканскім Доме тэхнічнай і мастацкай творчасці навучэнскай моладзі.

Вось вулачка вядзе да майстроў-ганчароў. Удзельнікі конкурсу завіхаюцца ля ганчарнага круга. Дэкаратыўная кампазіцыя "Набор народных ганчарных форм" складаецца з трох прадметаў, якія розняцца толькі памерамі і колерам. Але фантазія ўдзельнікаў буяла ў гэты дзень, як вясновая кветка.

А вось у конкурсе швачак і закройшчыкаў панавала дакладнасць. Пашыць халат - справа няпростая. Але ж толькі для дылетантаў. Для ўдзельнікаў фестывалю шытво даўно стала прафесійнай працай. Закройшчыкі ўмела здымалі меркі, выконвалі чарцяжы згодна з замалёўкай мадэлі, выраблялі лекалы і раскройвалі тканіну. Швачкі страчылі на машынках ужо апрацаваныя дэталі вырабу.

І вось ужо гатовыя стракатыя халаты вывешаны на вітрыну. Толькі і розняцца хіба што прыгожым аздабленнем.

А па суседству са швачкамі працавалі мастакі. "Велікодныя матывы" былі адлюстраваны імі на драўляных вырабах. Тонкім пэндзлікам навучэнец па-майстэрску накладвае фарбу. Штрых за штрыхом рука вымалёўвае дзіўны пейзаж з казачнымі героямі.

І толькі спецыяліст можа вызначыць у кожным вырабе майстэрства кампазіцыйнага рашэння, каляровую распрацоўку, арыгінальнасць сюжэта. А ў наведвальнікаў майстэрні мініяцюрнага роспісу па дрэве прадстаўленыя вырабы выклікалі толькі захапленне.

Тое ж адчуваеш, калі глядзіш на работу майстроў па аплікацыі саломкай. Мастацкая выразнасць, нацыянальны каларыт, шматгамнасць і яркасць колераў знайшлі сваё ўвасабленне ў вобразе дзякуючы сонечным саламяным промням.

Вышываныя сурвэткі, драўляныя пісьмовыя прылады, вязаныя галаўныя ўборы атрымалі заслужаную ацэнку членаў журы.

Дарэчы, пра журы. Конкурс "Горад майстроў" ацэньвалі прадстаўнікі вядучых мадэльных прадпрыемстваў і фірм. Сярод іх мадэльер-канструктар Т.Васільева са "Скарбніцы", мастак Мінскага мастацка-вытворчага камбіната М.Таланаў, інжынер-тэхнолаг з "Таірты" С.Штыцько, а таксама інспектар Дэпартамента кантролю якасці адукацыі Міністэрства адукацыі С.Васілеўская, метадыст Рэспубліканскага Дома тэхнічнай і мастацкай творчасці навучэнскай моладзі Р.Нікіціна і іншыя.

Дацэнт кафедры мадэлявання і мастацкага ткацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Галіна Якаўлеўна Мяшкова ўжо другі раз уваходзіць у склад журы "Беларускага вянка" па ацэнцы конкурсаў "Прадстаўленне каманд", "Ясь і Яніна", "Планета мод", "На лепшую экспазіцыю выстаўкі". І, як у вопытнага спецыяліста, у яе ёсць свае меркаванні наконт фестывалю.

Галіна Якаўлеўна лічыць, што намнога ўзрасла культура правядзення гэтага мерапрыемства, а ўдзельнікі лепш падрыхтаваныя. Адчуваецца іх тонкі густ і эстэтыка.

Любімы конкурс Г.Я.Мяшковай - "Планета мод". У ім каманды прадстаўлялі калекцыі з пятнаццаці мадэляў. На гэты раз мадэльны конкурс быў размежаваны трыма напрамкамі: народны стыль, вячэрні ўбор і авангард.

Здаецца, што яшчэ можна прыдумаць у нацыянальным беларускім адзенні? Але ж не!



Традыцыйная бела-чорна-чырвоная крыжаванка была з лёгкасцю заменена льняным убраннем у клетку, аздобленым саламянымі карункамі. А вось выйшлі на подыум і "Кісейныя паненкі". Такія прыгажуні вучацца ў прафесійна-тэхнічных установах Мінскай вобласці.

Непаўторныя калекцыі прадставілі ў "Планеце мод" і навучэнцы Магілёўскай, Гродзенскай, Гомельскай абласцей.

А вось на выстаўцы вырабаў дэкаратыўна-прыкладной і мастацкай творчасці лідэрамі сталі каманды Брэсцкай і Віцебскай абласцей.

Немагчыма не згадаць бадай самы запамінальны конкурс "Ясь і Яніна". Ён настолькі яскравы і шматгранны, што, без сумневу, мог бы ўпрыгожыць любое іншае спаборніцтва. Заданні гэтага конкурсу гавораць самі за сябе. Напрыклад, "Касіў Ясь канюшыну". Не, Ясь на сцэне канюшыну не касіў. Гэта была толькі інсцэніроўка беларускай народнай песні з выкарыстаннем вершаў, музычнага суправаджэння і... касы. Нацыянальнымі традыцыямі было прасякнута таксама заданне "З глыбіні стагоддзяў - абрадавыя святы".

Гэта яшчэ раз пацвердзіла, што фестываль стаў сапраўды нацыянальным святам навучэнскай моладзі не толькі па назве - "Беларускі вянок", а і па сваёй сутнасці.

Гэта заўважыў на яго закрыцці і начальнік упраўлення прафесійна-тэхнічнай адукацыі Эдуард Мікалаевіч Ганчар. Ён адзначыў, што ў прафтэхсістэме рэспублікі задзейнічана сёння амаль 2,5 тысячы гурткоў мастацкай і тэхнічнай творчасці, дзе займаюцца тысячы навучэнцаў. І толькі 175, лепшыя з лепшых, сталі ўдзельнікамі Рэспубліканскага фестывалю. Высокі гонар - за іх майстэрства.

**Ала КЛЮЙКО.**

НА ЗДЫМКАХ: у час спаборніцтваў.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Сумежжа адукацыі і культуры

# Школа рэжысёра Андросіка

***Пра тое, што Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача (найчасцей ужываецца абрэвіятура "ТЮГ") карыстаецца нязменным поспехам у гледачоў дзякуючы творчым высілкам галоўнага рэжысёра Андрэя Андросіка, упэўнішся, калі наведаеш колькі спектакляў.***

Першае, што кідаецца ў вочы - гэта запоўненая, лічы, да краёў глядацкая зала дзяўчынкамі і хлопчыкамі. Зразумела, сярод іх і педагогі, якія суправаджаюць вучняў, бацькі.

Міжволі просіцца наступнае пажаданне: а чаму б перад аўдыторыяй не зрабіць кароценькае выступленне-ўводзіны? Андрэй Фёдаравіч якраз і практыкуе такое. Заўсёды перад пачаткам тэаральнага дзейства звяртаецца да гледачоў у настаўніцкай манеры, педагагічна тактоўна і выверана. Юныя гледачы адразу настройваюцца на так неабходную у гэтым выпадку хвалю ўспрыняцца чакаемага відовішча - інтрыгу, канву спектакля.

Андрэй Фёдаравіч так зрабіў і на гэты раз - перад пачаткам пастаноўкі п'есы амерыканскай пісьменніцы Фрэнсіс Бернет "Маленькі лорд Фаўнтлярой".

Лічу, менавіта рэжысёрскае жывое слова - своеасаблівыя ўводзіны - паспрыялі таму, што тры дзеі спектакля (а гэта больш за тры гадзіны) праляцелі неўпрыкмет.

Крыху сумная гісторыя, захапляючая па зместу, завяршаецца на светлай аптымістычнай ноце. Маленькі лорд (такім ён сябе адчуваў) Фаўнтлярой цаною свайго жыцця ратаваў тапельцаў. Ён застаўся верным сабе - высакародным да апошніх хвілін.

Сцэнічна ўвасобленая аповесць Фрэнсіс Бернет, якая ў свой час набыла папулярнасць ва ўсім свеце, арыгінальна прачытаная рэжысёрам Андрэем Андросікам, трымала ў напружанні глядацкую залу. Дзяўчынкі і хлопчыкі былі літаральна ўцягнуты ў перыпетыі разгорнутай перад імі гісторыі.

На гэта, зразумела, працавала ігра акцёраў - заслужаных артыстаў Рэспублікі Беларусь Анатоля Жука, дарэчы, і пісьменніка, Леаніда Улашчанкі, Ларысы Горцавай, артыстаў Аляксандра Палазкова, Міхаіла Лявонцьева, Івана Ушаковіча, Наталлі Ваўчок, Святланы Ніканчык, Аляксандра Курловіча, Міколы Лявончыка і інш.

П'еса трывала прапісана ў рэпертуары тэатра чацвёрты год, заўсёды мае нязменны поспех у гледачоў, без перабольшання - аншлаг.

Пашчасціла прагледзець спектакль па п'есе Аляксея Дударава "Палачанка". Трагічная легенда, у непасрэднай пастаноўцы Андрэя Фёдаравіча, афармленая Народным мастаком Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўных прэмій СССР і БССР Барысам Герлаванам, аздоблена музыкай Уладзіміра Кандрусевіча, стала сапраўднай падзеяй у тэатральным жыцці краіны.

Вядомы драматург Аляксей Дудараў прапанаваў уласную версію гісторыі-легенды князёўны Рагнеды - дачкі полацкага валадара Рагвалода (дзея адбываецца ў 978 годзе ў Полацкім і Наўгародскім княствах).

Дудараўская займальная, хаця і спрэчная ў гістарычным плане, сюжэт-версія звяртае на сябе ўвагу найперш спалучэннем пазнавальнага і выхаваўчага аспектаў. Ну, а арыгінальна прачытаная і сцэнічна ўвасобленая рэжысёрам Андрэем Андросікам трагедыя лагічна спрацоўвае на безумоўны поспех спектакля.

Ці не з'яўляюцца спектаклі ТЮГа матэрыялізацыяй адмысловага праекта Аляксея Ануфрыевіча "Адкрыты ўрок беларускай драматургіі"?

Тая ж трагедыя, створаная паводле гістарычных фактаў, легенды, занатаванай у Цвярскім летапісе, інтэрпрэтаваная пісьменнікам-драматургам, расхінае шырокае поле для роздуму (асабліва старшакласнікаў), асэнсавання эпізодаў-падзей, звязаных са старажытнай айчыннай гісторыяй.

Аддача ад спектакля - заўсёды відавочная.

А дадайце сюды эмоцыі выбуховага характару, перыпетыі кахання дзеючых асоб, арыгінальныя калізіі сюжэту.

У плённым пошуку і знаходках існуе школа рэжысёра Андросіка, калі засяродзіцца на яе нядаўняй прэм'еры - пастаноўцы п'есы Пятра Васючэнкі "Рыцар сонца".

Магічнае ўздзеянне тэатра, прадчуванне сустрэчы з узнёслым, паэтычным дзействам спектакля адчуваецца ўжо за які квартал ад будынка ТЮГа. На падыходзе да яго - літаральна калоны дзіцячага народу. Бліц-інтэрв'ю забяспечвае інфармацыю: Святлана Колесень паведаміла, што вучні сярэдніх класаў школы № 179 з задавальненнем прыйшлі на прэм'ерны спектакль, настаўніца Марыя Кемянова з Мачулішчанскай сярэдняй школы Мінскага раёна прывезла на спектакль другакласнікаў, настаўніцы з Глыбокага Хрысціна Шыхалай, Соф'я Летарцова, Эрыка Канапелька суправаджаюць дзяўчынак і хлопчыкаў - гурткоўцаў (лялечнікаў) з Цэнтра пазашкольнай работы. Купка дзяцей паведамляе, што яны з падрыхтоўчага класа сярэдняй школы № 5 Смаргоні, а іх равеснікі - што прыехалі з Оршы - з сярэдняй школы № 20.

Прадчуванне сустрэчы з прыгожым спраўдзілася. П'еса ў пастаноўцы рэжысёра Наталлі Башавай сцвердзіла: ТЮГ - сапраўднае сумежжа адукацыі і культуры. Абмовімся, школа Андрэя Андросіка, як тэатральнага дзеяча, развіваецца.

Наталля Алегаўна падала спектакль у стылі мюзікла. А гэта значыць, што сцэнічнае дзейства прадумана дазіравана песнямі, танцамі, ідзе на фоне светлавых эфектаў.

Паэт Леанід Пранчак і кампазітар Уладзімір Кандрусевіч зрабілі ўсё магчымае, каб іх творы сталі сапраўднаю аздобаю спектакля.

Яўгенія Жуковіч-Пятрова, выканаўца галоўнай ролі, у кароценькім інтэрв'ю засведчыла, што ёй, маладой артыстцы, аказалі дзейсную маральную падтрымку майстры сцэны Валерыя Кавалерава, Людміла Разумова, Леанід Улашчык.

...Тое, што чарговы спектакль ТЮГа па п'есе Пятра Васючэнкі займеў права на поспех, я ўпэўніўся з рэакцыі маленькіх гледачоў: яны былі ў палоне відовішча на сцэне і з дзіцячай непасрэднасцю, калі падаваліся запытальныя рэплікі, імправізавалі адказы.

**Уладзімір НОВІК.**



**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Рэгістрацыйны нумар 197.**

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-90-63, 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання — 36-43-71; інфармацыі — 36-43-71; навукі і ВНУ — 36-44-25; кіравання адукацыяй, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.
ФАКС: 36-53-22, bng@e-mail.ru

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Ала КЛЮЙКО.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.

Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Заказ № 3284
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 5.6.2002 г. у 18.10
Тыраж 30.000 экзэмпляраў.